# Права на волю

№12
Чэрвень 1998

Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна—96"




# "Бацька" паказаў свой характар замежным паслам

*Некалькі тыдняў у чэрвені сродкі масавай інфармацыі падрабязна інфармавалі сусьветную грамадскасьць пра незвычайны скандал, што распачаўся на Беларусі вакол рэзідэнцыяў паслоў краінаў Захаду ў "Драздах". Беларусь (а дакладней яе прэзідэнт) зноў зьдзівіла ўвесь сьвет непрадказальнасьцю і нелагічнасьцю сваіх паводзінаў, учынкаў і патрабаваньняў...*

Сёньня існуе некалькі варыянтаў тлумачэньня, чаму прэзідэнт Лукашэнка распачаў раптам барацьбу за выганьне паслоў паважаных краінаў зь іх рэзідэнцыяў. Зразумела, ня мог ён ня ведаць (а тым болей ягоныя міністры), што недатыкальнасьць жыльля дыпламатаў гарантавана Венскай канвенцыяй. Гэта ж не нейкі там інстытут, ліцэй ці нават Саюз пісьменьнікаў, якія можна выгнаць з уласных памяшканьняў адным указам. І тым ня менш ён вырашыў пазбавіцца ад непажаданых суседзяў (нагадаем, што там жа у Драздах, знаходзіцца і рэзідэнцыя прэзідэнта Беларусі). Што (ці хто?) ў сапраўднасьці кіравала ім, мы з часам даведаемся дакладна. І таму адкінем пакуль свае здагадкі.

Аднак, пэўна, і беларускі прэзідэнт не чакаў, што краіны Захаду і іх паслы будуць дзейнічаць у адказ гэтак рашуча і не паддадуцца на ягоныя правакацыі. Адстойваючы свае правы на недатыкальнасьць жыльля, дыпламаты не зьбіраліся зьязджаць з Драздоў у прапаноўваемыя ім "на выбар" кватэры ў Менску. Але пасьля таго, як беларускі прэзідэнт загадаў адключыць электрычнасьць, ваду, тэлефоны, а потым перакапаць дарогу да рэзідэнцыяў і заварыць уязныя дзьверы, стала зразумела, што прыватны, здавалася б, канфлікт перарастае ў міжнародны скандал і вырашаць яго шляхам перамоў і пошукам шляхоў паразуменьня беларускі бок не зьбіраецца, паслы краінаў Еўрасаюза, а таксама ЗША, Японіі і іншых вядучых дзяржаў свету аб'явілі аб ад'езьдзе зь Беларусі для тэрміновых кансультацыяў са сваімі ўрадамі...

Тады яшчэ было спадзяваньне, што беларускі прэзідэнт

(Працяг на стар. 2)

## Хроніка

*У чэрвені* — правяла галадоўку страшыня асацыяцыі ахвяраў палітычных рэпрэсіяў г.Бабруйску Ганна Бокач. Бабруйскія ўлады, якія ўзначальвае камуніст, адмянілі свой дазвол на ўстаноўку помніка ахвярам палітычных рэпрэсіяў 30-50-х гадоў. Грамадскасьць горада ўжо сабрала на помнік грошы.

*У чэрвені* — незалежная медыцынская экспертыза пасьля абсьледваньня В. Старавойтава прыйшла да высновы, што стан здароўя 74-гадовага "злачынцы" не дазваляе яго ўтрымліваць у турме.

*15 чэрвеня* — у Гродні было забаронена правядзеньне сходу абласнога прафсаюзу прадпрымальнікаў. Кіраўніцтва гарвыканкаму даслала кіраўніцтву прафсаюза ліст, у якім забараняецца правядзеньне сходу дзеля таго, што гэтая арганізацыя не зарэгістравана.

*16 чэрвеня* — навучэнцамі і бацькамі ў Менску выстаўлены пікет у абарону адзінага ў Менску ліцэя з беларускай мовай навучаньня. Улады вырашылі ліквідаваць гэтую навучальную ўстанову. На пікеце ў розныя часы было ад 100 да 300 чалавек.

*19 і 22 чэрвеня* Гарадская арганізацыя Аб'яднанай грамадзянскай партыі правяла ў Менску пікеты супраць парушэньня правоў чалавека ў Беларусі.

У чэрвені — прайшоў фестываль беларускай песьні ў г.Маладэчна, пад час якога АМАПам было затрымана восем чалавек моладзі за тое, што яны трымалі ў руках бел-чырвона-белыя паветраныя шарыкі і такога ж колеру парасоны.

(Працяг на стар. 6)

# Мовазнаўствам — па "нячэснай" журналістыцы

***Рэжым змагаецца з незалежнай прэсай новымі метадамі...***

Звычайна летнюю пару Дзяржаўны камітэт Беларусі па друку сустракае новымі наступамі на вольную прэсу. Вось і сёлета ведамства, што ў народзе ахрысьцілі "міністэрствам праўды", аднавіла свой рух па своеасаблівай "сьцежцы вайны". 1 чэрвеня афіцыйныя папярэджаньні Дзяржкамдруку атрымалі адразу дзьве незалежныя газеты – тыднёвікі "Наша ніва" і "Здравый смысл". Цікава, што год таму абодва гэтыя выданьні таксама напаткалі рэпрэсіі. Першае абвінавацілі ў фальсіфікацыі гісторыі беларускай партызанкі ў часе Вялікай Айчыннай вайны. На рэдакцыю другога напалі невядомыя бандыты (сьледства ня здолела знайсьці іх і дагэтуль).

Цяперашнія ж праблемы згаданых газетаў маюць агульную адметнасьць. Рэпрэсіі прынялі — даруйце за цынізм — мірны, амаль сяброўскі характар. На "ЗС" ніхто не нападае, у артыкулах "НН" ніхто не шукае "ворагаў"! Ведамства, якое ўзначальвае Міхаіл Падгайны, хутчэй, практыкуецца ў філалогіі... "Здравому смыслу" аб'явілі папярэджаньне пра парушэньне Закону РБ "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі" за... адно слова. "Нашу ніву" вінавацяць у аналагічным парушэньні, але ўжо за... арфаграфічныя правілы! Як значыцца ў тэкстах абодвух папярэджаньняў, яны вынесеныя рэдакцыям "на падставе артыкула 16" Закона аб друку. "Здравый смысл", двухмоўнае выданьне, на думку "міністэрства праўды", парушыла арт. 40 згаданага Закону. А менавіта: у нумары за 6-13 траўня быў зьмешчаны артыкул "Вораг прэсы N 1 – генерал Абаша". У пятым абзацы артыкула сказана наступнае: "У сакавіку ва ўказе аб узмацненьні контарпрапаганды ён (Лукашэнка) забараніў сваім чыноўнікам даваць дакументы і каментары да іх незалежным выданьням". Дзяржкамдрук мяркуе, што газета ўвяла ў зман чытачоў, бо "у Рэспубліцы Беларусь адсутнічае Указ Прэзідэнта, які забараняе дзяржаўным служачым прадастаўляць інфармацыю незалежным выданьням". Такім чынам, "прывядзеньне неіснуючага прававога акта зьяўляецца парушэньнем абавязкаў журналіста па праверцы дакладнасьці атрыманых ім зьвестак і па прадстаўленьні для публікацыі аб'ектыўнай інфармацыі". Пры ўсім гэтым аўтарства матэрыялу, пра які ідзе гаворка ў лісьце Дзяржкамдруку, належыць "Радыё "Свабода". Менавіта са спасылкаю на радыё ён і быў надрукаваны на старонках "ЗС".

"Нашу ніву" вінавацяць у парушэньні іншага артыкула Закону аб друку – 6-га. "У аснове ўжываемага газетай "Наша ніва" пакладзены арфаграфічныя правілы, якія ўжываліся ў беларускай мове ў 20-х гадах нашага стагоддзя, але былі адменены правапіснай рэформай 1933 г.". Далей тэкст папярэджаньня зьмяшчае пералік гэтых самых "непатрэбных" правілаў ажно з васьмі пунктаў. Што ж, ня ведаю, дзе і чаму ў свой час вучыліся чыноўнікі-цэнзары, але ж добрай палове гэтых правілаў-"парушэньняў" мяне вучылі ва ўніверсітэце. Як і іншых колішніх студэнтаў-гуманітарыяў. Фактычна Дзяржкамдрук забараняе адметныя рысы беларускай мовы, імкнучыся, працягваючы справу бальшавіцкіх камісараў 30-х гадоў, яшчэ больш наблізіць нашу родную мову да мовы суседняй нацыі – рускай. Як вядома, большасьць прадстаўнікоў беларускай нацыянальнай эліты была носьбітам мовы, на якой друкуецца "Наша ніва"; пасьля рэформы 30-х гэты цьвет нацыі бальшавікі расстрэльвалі як "польскіх шпіёнаў"...

Згодна зь беларускім заканадаўствам, рэдакцыі выданьня дастаткова атрымаць два папярэджаньні ад Дзяржкамдруку, каб быць зачыненым. Нагадаем, што такі лёс напрыканцы мінулага году напаткаў газету "Свабода".

**Таццяна СЬНІТКА**



# Бацька паказаў свой характар замежным паслам

*(Пачатак на стар 1)*

адумаецца, што не захоча міжнароднай ізаляцыі сваёй краіны. Аднак А. Лукашэнка і МЗС Беларусі на чале з І. Антановічам распачалі непрыгожую гульню, у якой усю віну за тое, што адбылося паспрабавалі ўскласьці на замежных дыпламатаў. Для прадстаўнікоў цывілізаваных краінаў, магчыма, выглядала гэта дзікунствам, альбо элементарным няведаньнем, а значыць і парушэньнем міжнароднага права і дыпламатычнага этыкету. Але паводзіны прэзідэнта і ягоных памагатых ніколькі не зьдзівілі саміх беларусаў (і не толькі апазіцыйных палітыкаў), якія даўно вывучылі "характар" свайго "бацькі". Менавіта гэтак, без аглядкі на законы, Канстытуцыю краіны, агульначалавечыя этыку і мараль, ён паводзіў сябе і падчас прэзідэнцкіх выбараў, і падчас першага і другога рэферэндумаў, і ў барацьбе зь Вярхоўным Саветам, і ў змаганьні з апазіцыяй... Ягоныя праціўнікі заўсёды прайгравалі яму менавіта таму, што спадзяваліся на справядлівую барацьбу, на гульню па правілах, а сутыкаліся зь бязьмежным цынізмам і хлусьнёй, замешанымі на папулізме.

Паслухмяныя дзяржаўныя СМІ зрабілі ўсё, каб усьлед за прэзідэнтам абылгаць дзеяньні замежных паслоў і наогул краінаў Захаду. Лукашэнка на прасторах Беларусі ды і Расіі стаў "героем", які даў адпор капіталістам, які паказаў, "што і мы свой гонар маем і перад Захадам не поўзаем на каленях"... Што з таго, што мы разумеем, што гэтая перамога — Піра, што вынікі міжнароднай ізаляцыі Беларусі (зь імі пакуль сутыкнуліся толькі вышэйшыя чыноўнікі, якія сталі нявыязнымі) будуць катастрафічнымі для яе кволай эканомікі. Ад гэтага нам не лягчэй. І ня можа нас супакоіць нават тое, што сутыкнуўшыся твар у твар з А.Лукашэнкам, убачыўшы ягонае сапраўднае аблічча, Захад, магчыма, задумаецца цяпер: калі беларускі прэзідэнт гэтак абыходзіцца з замежнымі дыпламатамі, то як дзейнічае ён супраць свайго народу, якому зьвяздджаць "для кансультацыяў" няма куды...

**Андрэй НАЛІВА**

 



# У Беларусі строга захоўваюцца правы чалавека... І мы ведаем гэтага чалавека

23 чэрвеня ў Беларусі шмат гаварылася аб правах чалавека. Зранку слуханьні па гэтай тэме распачаў Нацыянальны сход – сфармаваны прэзідэнтам Лукашэнкам марыянетачны парламент. Вакол пляцу Незалежнасьці і Дома ўраду па загадзе ўладаў наразьвешвалі дынамікаў, і кожны жадаючы (нежадаючы –таксама) мог уволю наслухацца трансляцыі з Авальнае залы, дзе праходзілі слуханьні. Каля дзесяці гадзінаў раніцы здарыўся выпадак, які яскрава праілюстраваў сітуацыю з правамі чалавека на Беларусі. На пляц проста насупраць Дома ўраду выйшаў сталы чалавек з плакатам у руках. Чаго патрабаваў гэты чалавек, высьветліць я не пасьпела: міліцыя затрымала і зьвезла небараку з пляцу раней, чым да яго змаглі наблізіцца карэспандэнты.

Не прайшло й гадзіны, як адбылася яшчэ адна акцыя пратэсту непадалёк ад будынку парламента. Галадоўку на галоўным пляцы краіны вырашыў аб'явіць жыхар Менску Віктар Забалоцкі. "Мяне прымусіла зрабіць гэта абстаноўка, што склалася вакол маёй асобы, але такая ж сітуацыя сёньня ва ўсім нашым грамадстве, — сказаў В.Забалоцкі перад пачаткам сваёй акцыі.—Я ведаю мноства выпадкаў, калі людзі, якія раней актыўна праявілі сябе як удзельнікі дэмакратычных рухаў, трапляюць пад перасьлед уладаў. Пры гэтым ідуць у ход дэзінфармацыя і паклёп, каб скампраметаваць гэтых людзей у вачах грамадства".

Сам Віктар, актывіст дэмакратычных і праваабарончых арганізацыяў пачатку 90-х, за некалькі гадоў страціў працу, жыллё, пасьведчаньне асобы і здароўе. Ягоныя спробы ўладкаваць жыццё ні да чаго не прыводзілі. Перасьлед працягваўся, а звароты да розных інстанцыяў скончаліся абыякавымі адпіскамі чыноўнікаў. Забалоцкаму сёньня не выдаюць пашпарт, не прапісваюць да жонкі, ён ня можа ўладкавацца на працу. За тое, што некалі асьмеліўся абвінаваціць дырэктара аднаго з прадпрыемстваў у крадзяжах, быў афіцыйна абвешчаны вар'ятам (карная псіхіятрыя, як вядома, шырока ўжывалася дзеля барацьбы зь іншадумствам яшчэ ў СССР).

Даведзены да роспачы, чалавек выйшаў на пляц. Віктар Забалоцкі прывязаў сябе да дрэва жалезным ланцугом і разгарнуў плакат з кароткім тлумачэньнем сітуацыі. Прозь некалькі хвілінаў ён быў затрыманы міліцыянтамі і неўзабаве асуджаны. Галадоўка, якая больш нагадвала пікет, была несанкцыяванай. Гарадскія ўлады проста не даюць дазволу на акцыі пратэсту асобным грамадзянам Беларусі...

Абараніць правы сваіх суайчыньнікаў, якія цяпер знаходзяцца ў турмах, тым часам прыйшлі да пляцу Незалежнасьці і некалькі дэпутатаў Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня. На жаль, іх сабралася значна менш, чым планавалася – адныя парламентарыі не змаглі ўзяць удзел у акцыі, іншыя ж, падобна, збаяліся перасьледу з боку рэжыму. У несанкцыянаваным маршы пратэсту бралі ўдзел Станіслаў Багданкевіч, Павел Знавец, Аляксандр Дабравольскі і Анатоль Лябедзька. Паказаўся, але даволі хутка сышоў зь мейсца падзеяў Уладзімір Нісьцюк. Чацьвёрка парламентарыяў, што сталіся самымі прынцыповымі, рушыла да сьледчага ізалятара "Валадарка" з плакатамі "Свабоду Клімаву!", "Свабоду Кудзінаву!", "Свабоду Валерыю Шчукіну, дэпутату-камуністу!". Як вядома, Шчукін быў асуджаны на 10 сутак адміністратыўнага арышту за напісаньне лозунгу ў падтрымку Андрэя Клімава на сьценах будынку МУС. Дэпутаты А.Клімаў і У.Кудзінаў, палітычныя апаненты дыктатарскага рэжыму, трапілі за краты нібыта за эканамічныя злачынствы. Насамрэч гэтыя людзі спрабавалі бараніць Беларусь ад цемрашальства і беззаконьня... Але менавіта гэтыя зьявы сёньня ў краіне жывуць і квітнеюць. Так, ужо па шляху да СІЗА дэпутатаў спрабавалі спыніць міліцыянты, спасылаючыся на адсутнасьць дазволу ўладаў на правядзеньне іхняе акцыі, а таксама лукашэнкаўскія нормы адміністратыўнага заканадаўства. Каля муроў "Валадаркі" міліцыянты старанна перапісалі прозьвішчы ўдзельнікаў.

Пад "аховай" людзей у форме з рацыямі, а таксама – у цывільным з камерамі, дэпутаты прайшлі да будынку Міністэрства ўнутраных справаў, Генеральнай пракуратуры, а потым скіраваліся да прэзідэнцкай Адміністрацыі. Менавіта па шляху да Адміністрацыі шэсьце зноў двойчы спрабавала спыніць міліцыя. Матывацыя тая ж: несанкцыянаванасьць. Каля рэстарана "Іспанскі куток" міліцыянты разышліся пасьля таго, як высьвятленьне мэтаў і намераў дэпутатаў прыцягнула ўвагу мінакоў, пачынаючы набываць рысы несанкцыянаванага мітынгу. На арганізацыю такога мітынгу самімі ж "ахоўнікамі парадку" і зьвярнуў іхнюю ўвагу дэпутат Знавец.

Праз колькі хвілінаў міліцыянты аднавілі працэс высьвятленьня адносінаў з дэпутатамі проста на праезнай частцы перад будынкам Адміністрацыі прэзідэнта. На нейкі час быў спынены рух машын, і на "скрыжаваньні марксізма" (вуліцаў Маркса ды Энгельса) утварыўся невялікі "корак". Заявіўшы, што прысутныя парламентарыі парушылі дзеючае ў краіне заканадаўства, супрацоўнікі МУС прапанавалі ім, як трапна выказаўся А.Лябедзька, "здацца добраахвотна": ісьці у бліжэйшы пастарунак для складаньня адміністратыўнага пратаколу.

Удзельнікі акцыі павярнулі назад і па праспекце Скарыны вярнуліся да гатэлю "Менск", адкуль пачыналася шэсьце. За ўвесь час яго правядзеньня, дарэчы, ні дэпутаты, ні людзі, што далучыліся да іх з салідарнасьці альбо цікаўнасьці, ні разу нават не перайшлі вуліцу на чырвонае сьвятло сьветлафору. Гаварыць пра нейкія беспарадкі падчас гэтай акцыі проста сьмешна.

Тым ня менш служкі рэжыму самі "паклапаціліся" пра тое, каб стварыць беспарадкі. Каля гатэлю "Менск" дэпутатам захацелі ўручыць позвы, згодна з якімі яны павінны былі зьявіцца назаўтра ранкам у Маскоўскі РАУС. "У Маскву не паеду!" – жартоўна адказаў Станіслаў Багданкевіч на пытаньне, ці зьбіраецца ён "здавацца". Скептычна паставіліся да паперак і ягоныя калегі, а Анатоль Лябедзька адмовіўся расьпісвацца ў даведцы аб атрыманьні позвы. "Я маю на гэта права паводле заканадаўства, калі лічу, што позву хочуць уручыць мне безпадстаўна", — патлумачыў дэпутат. Спробы Лябедзькі растлумачыць гэта міліцыі скончыліся інцыдэнтам: дэпутата схапілі і хацелі гвалтам зацягнуць у мі-ліцэйскую аўтамашыну. Аднак гэтага не далі зрабіць прадстаўнікі прэсы і грамадскасьці, якія літаральна бягом кінуліся да месца здарэньня.

А ў гэты час у Авальнай зале чыталі даклады аб стане правоў чалавека ў краіне галоўныя "гаранты" гэтых самых правоў: кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Міхаіл Мясьніковіч, дзяржсакратар Савета бясьпекі Віктар Шэйман, міністр замежных справаў Іван Антановіч ды іншыя. Лейтматывам, як і можна было чакаць, прагучала думка аб тым, што правы асобы на Беларусі надзейна абараняюцца. Напэўна – абараняюцца ад іх выкананьня...

Прэзідэнцкія чыноўнікі выказаліся таксама наконт "беспадстаўнасьці" абвінавачваньня ўладаў Беларусі з боку дэмакратычных краінаў у парушэньнях правоў чалавека. Падтрымка гэтымі краінамі дэмакратычных інстытутаў беларускага грамадства трактавалася дакладчыкамі фактычна як варожая. Адзін зь іх пры гэтым падкрэсьліў, што ЗША хавае ў сябе "лідэра экстрэмісцкай арганізацыі БНФ". Найбольш рэзка былі ахарактарызаваныя прадстаўнікі беларускай апазіцыі: паводле іхніх словаў, калі хто і парушае ў Беларусі чыесьці правы, дык гэта апазіцыйна настроеныя грамадзяне. Дайшло да абсурду. Шэйман абурыўся тым, што адзін з сяброў "Маладога Фронту" нагадаў пра немінучую расплату ў будучым за ўчыненыя рэжымам злачынствы – кіраўнік Савету бясьпекі бачыць у гэтым пагрозу. А адзін з апаратчыкаў адміністрацыі Лукашэнкі, М.Чаргінец, раптам заявіў, што Зянон Пазьняк нібыта прад'яўляў тэрытарыяльныя прэтэнзіі да Летувы, Польшчы і Расіі. "Чаму ж на гэтыя прэтэнзіі не адрэагаваў Захад?" — пытаецца Чаргінец, ужываючы любімы штамп рэжыму: "двайныя стандарты Захаду". Самае цікавае ў хлусьні генерала Чаргінца нават ня тое, што ніякіх "тэрытарыяльных прэтэнзіяў" Пазьняк ніколі нікому не прад'яўляў. Прамоўца яўна перакручвае факты, бароначы сваіх ідэйных паплечнікаў: у 1990-м годзе, калі Летува першая ў СССР абвясьціла незалежнасьць, камуністычны прамаскоўскі ўрад БССР (на чале з Сакаловым і Малафеевым) запатрабаваў ад Літвы "вярнуць кавалак тэрыторыі" з мэтай захаваць Саюз. Трохі пазьней тыя ж самыя палітычныя сілы праілі ў Вільні кроў. Сябры і аднадумцы абвінавачваемага імі Пазьняка, наадварот, змагаліся за незалежнасьць братняга народа. Так рэжым Лукашэнкі робіць белае чорным, а чорнае – белым...

Адно зь першых мерапрыемстваў беларускіх уладаў, прысьвечаных 50-годзьдзю прыняцьця Дэкларацыі правоў чалавека, на гэтым скончылася.

**Яна ЖДАНОВІЧ**



 

***Імя Сяргея Антончыка ў многіх выклікае асацыяцыю з часамі, калі на Беларусі толькі пачала ўсталёўвацца дыктатура Лукашэнкі. Дэпутат Вярхоўнага Савета 12 скліканьня Антончык быў адным з першых барацьбітоў супраць яе. Знакамітыя «белыя плямы» на старонках буйнейшых газетаў краіны, масавае зьняцце Лукашэнкам галоўных рэдактараў... Так, гісторыя захопу рэжымам многіх мас-медыя фактычна пачалася з дакладу дэпутата Антончыка. Паколькі ў дакладзе ішла гаворка пра злоўжываньні новага рэжыму, рэжым, які пазьней неаднойчы пераступіць праз законы і Канстытуцыю, вырашыў прыбраць да рук СМІ. Напярэдадні першага лукашэнкаўскага рэферэндуму С.Антончык разам з іншымі дэпутатамі парламенту трымаў галадоўку пратэсту ў Доме ўраду, за што парламентарыі былі жорстка зьбітыя спецназам па загадзе дыктатара. Сёньня, як многія палітычныя апаненты Лукашэнкі, Сяргей Антончык сустракаецца часам з цяжкасьцямі. Самая актуальная на сёння цяжкасьць – статус беспрацоўнага, які зацягнуўся зусім не па ягонай віне. С. Антончыка нідзе не бяруць на працу. Улады і асабіста прэзідэнт, падобна, помсьцяць яму за прынцыповасьць... Мы сустрэліся з Сяргеем Антончыкам і пагаварылі пра жыццё – як яго самога, так і ўсёй Беларусі.***

# Сяргей Антончык: "Палітыку трэба быць побач зь людзьмі..."

***— Спадар Антончык, вы зараз дзесьці працуеце? Вам удалося ўладкавацца на працу?***

— На вялікі жаль, не. Я абыйшоў каля дзесяці прадпрыемстваў, і ўсюды мяне на працу бяруць... пакуль не пазнаюць. Кожнага разу рыхтуюць загад, накіроўваюць на медкамісію, а потым, калі я праходжу гэтую медкамісію, раптам адмаўляюць. Кіраўнікі звычайна спрабуюць неяк тлумачыць гэта, у іх з'яўляюцца ўсялякія довады. Але потым, у шчырых размовах, яны кажуць: вы ж ведаеце палітычны момант, ёсьць загад... Думаю, што ня ўсе яны кажуць праўду. Ня ўсюды ёсьць загад, наўрад ці разаслалі нейкі цыркуляр адносна мяне на ўсе прадпрыемствы. На пэўных прадпрыемствах загад быў – мяркую, гэта МАЗ, трактарны завод, метрапалітэн... Але часта кіраўнікі проста «страхуюцца». Наменклатура засталася такая, як і была: заўсёды

***— Па якіх сьпецыяльнасьцях вы ўладкоўваліся?***

— Па тых сьпецыяльнасьцях, якія патрабуюцца. У іх ліку і самы некваліфікаваныя. Ну, напрыклад, я хацеў уладкавацца грузчыкам. Я ўладкоўваўся таксама вучнем сьлесара-зборшчыка, электрыкам, фармаўшчыком, рамонтнікам чыгуначных шляхоў... Зараз, напрыклад, на трактарны завод патрабуецца 600 чалавек. І я ўладкаваўся спачатку сьлесарам-зборшчыкам, і калі ўжо камісію прайшоў, мяне ня ўзялі. Потым я пайшоў у цэх і ўладкаваўся грузчыкам – начальнік мне падпісаў загад. Але мне сказалі, што зьнялі начальніка, бо ня меў ён права падпісваць мае паперы. Потым на МАЗе ўладкаваўся валачыльшчыкам. Гэта самая брудная і цяжкая праца, дзе адны былыя зьняволеныя ды прагульшчыкі працуюць... Але месца раптам «не знайшлося» і там.

Я не хачу рабіць зь сябе ахвяру рэжыму. Я проста бачу, што яны мяне баяцца. Вось я заходжу на прадпрыемства да начальніка цэху зборкі... Ён мяне яшчэ ня ведае, яму патрэбныя людзі. Ён мяне прымае, потым я іду ў аддзел кадраў, а з аддзела кадраў яму тэлефануюць: каго ж ты прыняў?! І калі мы зноў сустракаемся зь ім, я бачу, што гэта ўжо зусім іншы чалавек. Ён бледны, у яго трасуцца рукі... Я зразумеў, наколькі ж мы моцныя і наколькі яны плебеі – усе гэтыя начальнікі. Калі нас і цяпер баяцца, то наколькі ж гэтая сістэма слабая!

***— Спадар Сяргей, а якая ў вас адукацыя? Вы маглі б прынесьці карысьць грамадству ня толькі як рабочы. Можа, і знайсьці працу было б лягчэй, калі б шукаць не толькі на заводах?***




*Беларускі "электарат"*

— Я вось што хачу вам сказаць: гэты момант вельмі важны! Чаму я ўсё ж такі пайшоў на прадпрыемствы, на заводы?

***— Чаму?***

— Я лічу, што беларускае грамадства – гэта грамадства, якое непадобнае ні на якое іншае. Гэта грамадства, якое амаль што немагчыма падняць толькі на ідэях незалежнасьці, ідэі культурнага разьвіцьця, нацыянальнай самасьвядомасьці. Гэта грамадства, аб'яднанае толькі думкай аб хлебе надзённым, агульнай працай, але нацыянальная ідэя застаецца ідэяй сьвядомых людзей. Няма ў нас такіх магчымасьцяў, як некалі былі ў Летуве, як у Польшчы. І таму наш шлях – толькі праз прадпрыемствы, праз простых людзей. Праз паляпшэньне іхняга жыцьця, праз змаганьне за гэтае жыцьцё можна прывесьці іх да храму незалежнасьці, разуменьня нашай непадобнасьці да другіх нацыяў. У 91-м годзе, калі пачаліся страйкі, забастовачныя камітэты ўзначалілі толькі рабочыя, якія мелі самую высокую кваліфікацыю, якія зараблялі сама больш на прадпрыемствах. Чаму? Здаецца, гэтыя людзі нядрэнна жылі. Таму, што паляпшэньне жыцьця разьвівае патрэбы, яно робіць чалавека больш вольным. Таму калі нехта з апазіцыі кажа, што будзе пагаршэньне і дзеля гэтага будзе цяжэй Лукашэнку – гэта памылка. Пры пагаршэньні жыцьця, наадварот, грамадства «чырванее», робіцца больш камуністычным. Калі мы хочам нешта зрабіць, то павінны накіроўваць сваю дзейнасьць на тое, каб у людзей зьявілася жаданьне лепш жыць. Гэта магчыма зрабіць. Прычым калі любы палітык пачынае звонку зваць людзей кудысьці – гэта адно. А калі палітык разам з гэтымі людзьмі, у гэтай жа сістэме, у гэтым жа брудзе, кожны дзень... Толькі тады апазіцыя зможа перамагчы гэты дыктатарскі рэжым.

***— Дарэчы, вас, спадар Антончык, зараз нешта ня бачна на акцыях пратэсту. Гэта выпадкова ці мае сувязь з тым, што вы гаворыце?***

— Я лічу, што час гаварыльні мінуў. Можа, гэта ўжо зьбіты тэзіс, штамп, але трэба ісьці да людзей. Калі там, у працоўных калектывах, мы не пачнём працаваць – нічога ў нас не атрымаецца. Нічога! Ніхто не дапаможа нам: ні Захад, ні Расія. Вось таму я і хацеў пайсьці на завод, уладкавацца простым рабочым. Каб разам з людзьмі ісьці да мэты. Трэба паступова пачынаць з людзьмі гэтую працу.

Я лічу, што я абавязкова ўладкуюся, бо інакш ня можа быць. Я хацеў пайсьці на буйны завод: трактарны, МАЗ, Вавілава і г.д. Але ж ёсьць і калектывы менш буйныя, 300-400 чалавек. Калі кажуць, што няма ідэалогіі для апазіцыі, я адказваю, што гэта ідэалогія кожны дзень прысутнічае ў думках людзей пра хлеб надзённы...

***— Я так зразумела, што вы не зьбіраецеся зьязджаць за мяжу?***

— Ні ў якім разе! Гэта проста выключана пры любым раскладзе! Не вельмі хачу вымаўляць такое высокае слова, але – я патрыёт Беларусі. Не ў сэнсе дачыненьня да пэўнай палітычнай плыні. Проста мне вельмі падабаецца мая краіна – Беларусь. І я тут буду жыць за кавалак хлеба, але ня зьеду. Так, мяне аштрафавалі, так, мяне нікуды не бяруць на працу, але я на сваёй зямлі жыву, а гэта для мяне шмат значыць. Тут я пачуваюся значна лепш, чым у якой бы то ні было іншай краіне. Проста таму, што тут мае карані: мае дзеці, мая школа, мае аднакласьнікі, мой бацька тут пахаваны... Не заўсёды я магу цалкам зразумець людзей, якія зьязджаюць, просяць палітычнага прытулку. Праўда, калі маладыя едуць у замежжа – разумею і нават радуюся. Яны там атрымаюць добрае выхаваньне, можа, і адукацыю. Гэта нашыя беларускія кадры. Але калі людзі больш сталыя, гадоў сарака, едуць туды... Мы ж перажылі ўсё, перажылі нават бальшавікоў! У наш час не было ніякіх інтэрнэтаў, кампутараў – не было нічога! У рэжыму няма ніякіх перспектываў. Я лічу ўсё-ткі, што моладзь адстаяла больш, чым усе палітыкі, узятыя разам. Яна пайшла на вуліцы, потым нават пралілася кроў, і гэта вывела з амёбнага стану многіх палітыкаў.

Я лічу, што неабходна адчыніць на тэрыторыі краін Еўрасаюзу адзін ці два беларускія універсітэты. Каб кожны студэнт, адлічаны за палітычную дзейнасьць, мог там вучыцца, атрымліваць стыпендыю. Па-другое, трэба знайсьці магчымасьць уладкоўваць на Захадзе людзей, якія губляюць магчымасьць наладзіць сваё жыцьцё тут. Гэта я не пра сябе кажу, ратуй Божа! Але павінны быць магчымасьці ў рабочых, самых простых людзей. Сістэма апазіцыі павінна мець унутраную самаабарону. Калі яна ня будзе яе мець, усё ператворыцца ў дысідэнцкі рух... Што датычыць мяне – мы зараз ствараем рабочую арганізацыю. Шукаем магчымасьці на базе стачкаму 1991-га году. Магчыма, будзем займацца выключна асьветніцкай дзейнасьцю, выпускаць нейкія дайджэсты. Бо газеты, якія існуюць, не скіраваныя на рабочых – яны ў бальшыні для тых, хто ўжо і так усё ведае.

***— Спадар Сяргей, некаторым палітыкам, якія апынуліся ў апазіцыі, паступалі прапановы працаваць за мяжой. Вам не было такіх прапановаў?***

— Ніколі не было і ня будзе. Гэта прапаноўваюць наменклатуры. У Беларусі, у адрозьненьне ад Расіі, у свой час не адбылося расколу наменклатуры. І толькі зараз Лукашэнка прыводзіць да гэтага расколу. Унутрынаменклатурныя «тусоўкі» могуць мець вынікам самыя неверагодныя зьвязкі. Бліскучы прыклад – Краўчанка. Ён быў такі дэмакратычны, а потым яму прапанавалі стаць амбасадарам у Японіі, і ён паехаў. З другога боку, «бытие определяет сознание». Гэтае «битиё» стала вызначаць сьвядомасьць часткі людзей, якія працавалі разам з Лукашэнкам. «Битиё» прывяло да трансфармацыі іх у лепшы бок, і гэта трэба толькі вітаць. Але наменклатура заўсёды імкнецца паразумецца, таму і будуць яны мець прапановы. Але – не я, не Баршчэўскі, не Вячорка...

***— Я кажу не пра супрацоўніцтва з рэжымам, а варыянты працы ў замежных арганізацыях.***

— На гэты конт я ня маю ілюзій. Я вельмі незалежны чалавек. Я вызначыў для сябе, дзе павінен быць, і гляджу на нашую будучыню аптымістычна.

**Гутарыла Тацьцяна СЬНІТКО**

# Вярнуць Беларусь на дэмакратычны шлях разьвіцьця

***З заявы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь у сувязі з 50-годзьдзем прыняцьця Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека***

...На сваім пасяджэньні Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь канстатаваў, што ў Беларусі назіраецца грубае парушэньне правоў чалавека.

У парушэньне Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, а таксама Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь (арт. 93), пачынаючы з лістапада 1996 года — дзяржаўнага перавароту здзейсьненага прэзідэнтам А. Лукашэнкам, незаконна, без згоды Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь затрымліваліся, арыштоўваліся і прыцягваліся да крымінальнай і адміністратыўнай адказнасьці 12 дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Больш за тое, дэпутаты Кудзінаў У. А. і Клімаў А. Я., якія знаходзяцца ў гэты час пад аховаю, неаднаразова зьвярталіся ў рэспубліканскую пракуратуру са скаргамі аб парушэньні іх канстытуцыйных правоў. Аднак, неабходныя меры рэагаваньня пракурорам краіны прынятыя не былі. Па ініцыятыве прэзідэнцкай вертыкалі дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Домаш С. М. падвяргаецца прымусоваму высяленьню з уласнага дома. За выказваньне сваіх перакананьняў і іншадумства незаконна арыштоўваліся і падвяргаліся адміністратыўным пакараньням дэпутаты В. Шчукін і П. Знавец.

Выклікае трывогу і заклапочанасьць той факт, што парушэньне законнасьці і правоў чалавека ў рэспубліцы набываюць масавы характар. Напрацягу доўгага часу чакаюць суда былы старшыня Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь Віньнікава Т. Д., былы міністр сельскай гаспадаркі РБ Лявонаў В. С., двойчы Герой Сацыялістычнай Працы, 74-гадовы Старавойтаў В. К. ...

Прэзідэнцкімі структурамі манапалізаваныя сродкі масавай інфармацыі. Ганеньням і перасьледу за сваю прафесійную дзейнасьць падвяргаюцца многія журналісты...

Гвалту і ідэалагічнай апрацоўцы ў РБ падвяргаецца моладзь. Нязгодных з палітыкай Лукашэнкі і яго рэжымам запалохваюць і падвяргаюць фізічным пакутам у ізалятарах часовага ўтрыманьня... (Д. Васьковіч, П. Севярынец, А. Шыдлоўскі, і інш.)

У сувязі зь сітуацыяй, што склалася ў Рэспубліцы Беларусь, Вярхоўны Савет РБ выказвае пратэст супраць парушэньня дыктатарскім рэжымам Лукашэнкі правоў і свабодаў чалавека і патрабуе адмены законаў і палажэньняў, якія супярэчаць Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, ажыцьцяўленьня канкрэтных мераў па вяртаньню краіны на дэмакратычны шлях разьвіцьця.

Вярхоўны Савет РБ зьвяртаецца ў ААн, АБСЕ, ПАСЕ, да парламентаў і ўрадаў усіх краінаў — асудзіць палітыку, што праводзіць рэжым Лукашэнкі, бо яна вядзе Рэспубліку Беларусь да таталітарызму і поўнай ізаляцыі.

*13 чэрвеня 1998 г.*

# Людзі ў цывільным, хто вы?

17 чэрвеня ў Ленінскім судзе Менска была разгледжаная скарга 25-гадовага менчука Віктара Жагуня, які 5 траўня пацярпеў ад незаконных дзеяньняў работнікаў міліцыі.

У той дзень у сталіцы праходзілі шэсьце і мітынг у падтрымку маладых палітычных зьняволеных – Аляксея Шыдлоўскага і Паўла Севярынца. Ніякіх парушэньняў грамадскага парадку з боку ўдзельнікаў не было. Тым ня менш пасьля сканчэньня акцыі было затрымана і дастаўлена ў Цэнтральны райаддзел міліцыі дзесяць чалавек, якіх праз пару гадзінаў выпусьцілі.

Віктар Жагунь разам са сваімі сябрамі пасьля мітынгу стаяў на прыпынку гарадскога транспарту "Вуліца Камуністычная", калі непадалёк спыніўся аўтамабіль з цывільнымі нумарамі, без якіх бы то ні было апазнавальных знакаў сілавых ведамстваў. З аўтамабіля выскачылі некалькі моцных дзецюкоў, апранутых таксама ў цывільнае. Яны пачалі хутка хапаць людзей на прыпынку і цягнуць да сваёй машыны. Зьвярнулі ўвагу і на Віктара. Гэта адбылося пасьля таго, як хлопец аказаўся ў цэнтры штурханіны, быў выштурхнуты на праездную частку вуліцы Багдановіча і паспрабаваў перабегчы яе, каб пакінуць мейсца небясьпечных падзеяў. Як вынік — хлопца зьбіў аўтамабіль, які ішоў па другой паласе дарогі. З разьбітай галавой, акрываўленага Віктара адвезьлі ў міліцыю. Як і іншых затрыманых, яго адпусьцілі не прад'явіўшы ніякіх абвінавачваньняў. Але на наступны дзень, 6 траўня, зьявілася пастанова аб спагнаньні з В.Жагуня штрафу... за парушэньне правілаў дарожнага руху (паводле арт. 120 ч. 3 Кодэкса аб адміністратыўных правапарушэньнях). Дарэчы, пасьля гэтага здарэньня амаль тыдзень В.Жагунь знаходзіўся на бюлетэні...

Бандыцкія дзеяньні "людзей у цывільным" пры дапамозе Праваабарончага Цэнтру "Вясна-96" пацярпелы абскардзіў у судовыя і пракурорскія органы. Адказ з пракуратуры Цэнтральнага раёну па выніках пракурорскай праверкі ў органах МУС Віктар павінен быў атрымаць 14 чэрвеня, але адказ да дня судовага паседжаньня — 17 чэрвеня — не прыйшоў.

Судзьдзя Валянціна Крывая выслухала трох сьведкаў здарэньня з Віктарам Жагунем. Усе яны 5 траўня таксама былі схопленыя міліцыянтамі ў цывільным ля прыпынку па вул. Багдановіча. Нечаканым момантам стала зацікаўленьне судзьдзі такой адыёзнай арганізацыяй, як РНЕ: пытаньні пра яе задаваліся кожнаму сьведку. Рэч у адказе самога В.Жагуня падчас ягонага выступленьня. "Калі адбываўся напад 5 траўня, каму вы яго самі прыпісалі ў той момант?" Пацярпелы сказаў, што першай была згадка пра магчымае дачыненьне да нападу "Русского национального единства". Гэтая арганізацыя рускіх шавіністаў пачувае сябе на тэрыторыі Беларусі па-гаспадарску.

Рашэньне па справе Віктара Жагуня прынята не было: судзьдзя зрабіла запыт аб выніках праверкі дзеяньняў міліцыі ў пракуратуру. Нягледзячы на нязвыкла нейтральнае стаўленьне судзьдзі да справы (даводзілася бачыць у такіх выпадках і непрыхаваны зьдзек з боку ейных калегаў), усё ж пакуль нельга быць упэўненым, што бандыты-міліцыянты панясуць заслужанае пакараньне. Судзьдзі ў Беларусі – людзі надта залежныя ад дзяржавы. А вышэйшае кіраўніцтва гэтай дзяржавы гвалт з боку сілавых ведамстваў пакуль што заахвочвае. Прынамсі, у тыя дні, калі ў горадзе праводзяцца масавыя акцыі апазіцыі.



*Гэтак дзейнічаюць "людзі ў цывільным"на вуліцах Менску.*

# Хроніка

*(Пачатак на стар 1)*

*22 чэрвеня* — у выніку парушэньня ўрадам Беларусі і прэзідэнтам А.Лукашэнкам Венскай канвенцыі, у сувязі з гвалтоўным высяленьнем іх з пасольскіх рэ-зідэнцыяў, арэндаваных пасольствамі, паслы заходніх краінаў пакінулі Беларусь. Беларускім паслам было таксама прапанавана пакінуць заходнія краіны.

*23 чэрвеня* — пад час чытаньняў па захаваньні правоў чалавека ў Беларусі ў так званай палаце Вярхоўнага Савета РБ, на пляцы перад парламентам міліцыяй былі затрыманыя дзьве асобы, якія спрабавалі зьвярнуць увагу грамадскасьці на парушэньне іхніх асабістых правоў. Адна з іх — Віктар Забалоцкі, беспрацоўны, які ў знак пратэсту супраць парушэньня ягоных правоў, прыкаваў сябе ланцугом да слупа. У гэты ж дзень В.Забалоцкі быў асуджаны ў Маскоўскім судзе і папярэджаны.

У дзесяць гадзінаў раніцы сваю чарговую акцыю пратэсту супраць зьняволеньня дэпутатаў А. Клімава і У. Кудзінава пачалі дэпутаты 13 скліканьня. Чатыры дэпутаты з лозунгамі: "Свабоду дэпутату А.Клімаву" і "Свабоду дэпутату У.Кудзінаву" прайшлі ад плошчы Незалежнасьці да турмы на вул.Валадарскага, затым да рэспубліканскай пракуратуры і да адміністрацыі прэзідэнта, да якой іх не пусьцілі. Пасьля гэтай акцыі ўсім дэпутатам былі ўручаныя позвы ў суд. Дэпутат Анатоль Лябедзька, які адмовіўся атрымліваць гэтую позву, быў затрыманы і зьбіты міліцыяй, але намаганьнямі іншых дэпутатаў вызвалены.

# Герастраты XX стагоддзя

### Рэжым Лукашэнкі ўвойдзе ў гісторыю гвалтам над нацыянальнай адукацыяй

...Яшчэ здалёк, праз дарогу ад Міхайлаўскага сквера, што ў цэнтры Менска, я ўбачыла даволі вялікую групу людзей з плакатамі ў руках: "Аб'яднаньне=зьнішчэньне", - кідаўся ў вочы надпіс на самым вялікім транспаранце пасярэдзіне. Нават для недасьведчанага чалавека сутнасьць справы яскрава чыталася з плакатаў: "Увага! Адзіны ў сьвеце беларускі ліцэй пад пагрозай зьнішчэньня!"; "Мы супраць штучнага сімбіёзу!"; "Не аддамо ліцэй!". Два надпісы вылучаліся сваёй рускай мовай. Вось цытата з Дастаеўскага. Фёдар Міхайлавіч, рускі пісьменнік беларускага паходжаньня, лічыў, што "Все сокровища мира не стоят слезы ребёнка". Побач - гнеўнае і крыху перафразаванае, таксама класічнае: "Умом вас не понять!"

Ужо другія всквцыі вучні Беларускага гуманітарнага ліцэю вымушаны часткова праводзіць на вуліцах роднай сталіцы. Мінулым летам улады, а дакладней - адміністрацыя прэзідэнта, вырашылі далучыць будынак, дзе месьціцца ліцэй, да сваіх уладаньняў. Гэты намер ня быў выкананы пасьля некалькіх наладжаных ліцэістамі, іх бацькамі і выкладчыкамі акцыяў пратэсту. Навучальны год мінулай восеньню пачаўся, як звычайна - калі не лічыць чуткі пра "зьліцьцё" ліцэя з іншай навучальнай установай. З пачаткам летніх вакацыяў чуткі выліліся ў рэальную пагрозу. Беларускі гуманітарны ліцэй, адзіная ў сьвеце цалкам беларускамоўная навучальная ўстанова перадуніверсітэцкага тыпу, можа зьнікнуць. І што самае сумнае: зьнікнуць не ў краіне, дзе беларусы зьяўляюцца нацыянальнай меншасьцю - на зямлі іхніх дзядоў ды прадзедаў...

"Калі ласка, падпішыцеся ў нашу абарону!" - зьвяртаюцца да мінакоў хлопцы і дзяўчаты, навучэнцы ліцэю. Цікава назіраць рэакцыю староньніх людзей. Адны староньнімі сябе ў такой справе, падобна, ня лічаць і ставяць подпісы, доўга не вагаючыся.Некаторыя сьпяшаюцца на цягнік: побач са скверыкам - чыгуначны вакзал. Іншыя проста сьпяшаюцца. Знаходзяцца і аматары паабурацца "беспарадкамі"... Правёўшы пікет "у два прыёмы па дзьве гадзіны", у той дзень - 16 чэрвеня - ліцэісты атрымалі паўтары тысячы галасоў у сваю падтрымку.

Вучні Беларускага гуманітарнага ліцэя бароняць сваё права на адукацыю. Згодна з праектам, падрыхтаваным у Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь, іхнюю "альма матэр" улады мяркуюць аб'яднаць з ліцэем пры БДУ. "Мы не супраць БДУ, - кажуць ліцэісты, - многія з нас мараць паступіць у гэтую славутую навучальную установу. Але зараз мы хочам вучыцца менавіта ў нашым ліцэі". Ці атрымаецца з праекта тыпу "два ў адным флаконе" нешта такое, што задаволіць вучняў, выкладчыкаў, бацькоў абедзьвух установаў? Ліцэй пры БДУ прымае навучэнцаў з 9 класа школы - Беларускі гуманітарны на два класы раней; першы мае тэхнічную сьпецыялізацыю і рыхтуе "фізікаў" - другі, наадварот, "лірыкаў"; у першым руская мова навучаньня, у другім... Вось тут, можа быць, і "сабака закапаны"? Дарэчы, праект аб'яднаньня ліцэяў падрыхтаваны ня кім іншым, як вядомым барацьбітом з усім беларускім У.Замяталіным - колішнім зампалітам, які сёньня сядзіць у крэсьле віцэ-прэм'ера. Паводле паходжаньня й месца нараджэньня ён рускі, паводле выхаваньня і поглядаў - савецкі. Ідэал такіх людзей - поўная адсутнасьць нацыянальнай адукацыі, як гэта было ў Савецкім Саюзе. "Спадар Замяталін! - зьвяртаецца да "іншаземнага" кіраўніка адзін з плакатаў. - А каб зьнішчалі апошнюю рускую школу ў Маскве?"

Лёс беларускага ліцэю пакуль вырашаецца ў кабінетах чыноўнікаў. Дарэчы, тыя нават не паклапаціліся пра своечасовае інфармаваньне кіраўніцтва абодвух згаданых навучальных установ: трансфармацыі робяцца за сьпінамі выкладчыкаў і вучняў, якім паведаміць "радасную навіну" могуць перад самым пачаткам чарговага навучальнага году. Тады толькі паступіўшым пасьля немалога конкурсу ў Беларускі гуманітарны сямікласьнікам застанецца вярнуцца ў школу. Бяз працы застанецца ў такім выпадку частка выкладчыкаў-гуманітарыяў. На думку некаторых назіральнікаў, сярод прычын зьліцця ліцэяў мае месца і перасьлед некаторых выкладчыкаў за палітычныя погляды: напрыклад, замежную літаратуру ліцэістам выкладае Лявон Баршчэўскі - в.а. старшыні Беларускага Народнага Фронту. Зараз праблемай Беларускага гуманітарнага ліцэя зацікавіліся дэпутаты Менгарвыканкаму, а таксама адзін ці два чалавека з прэзідэнцкай "палаты". У кулуарах выказваюць нязгоду з намерам уладаў і іншыя дзяржаўныя чыноўнікі. Можа, раз дзесьці ў душы беларускасьць захавалася і ў іх - сапраўды "не аддамо ліцэй"?

---

# Нацыянальная адукацыя ў Беларусі знаходзіцца пад пагрозай

### Заява Праваабарончага Цэнтру "Вясна-96"

Беларускі гуманітарны ліцэй—адзіная ў Беларусі каледжнага тыпу, дзе навучаньне адбываецца цалкам на беларускай мове.

Вясной 1998 году бацькоўскі камітэт ліцэя атрымаў інфармацыю пра падрыхтаваны міністэрствам адукацыі праект, згодна з якім Беларускі гуманітарны ліцэй плануецца аб'яднаць з ліцэем пры Беларускім дзяржаўным універсітэце.

Па сутнасьці, гэта азначае ліквідацыю Беларускага гуманітарнага ліцэя як навучальнай установы.

У выніку аб'яднаньня Беларускі гуманітарны ліцэй страціць ня толькі сваю юрыдычную самастойнасьць, але і адукацыйную адметнасьць. Варта адзначыць, што два ліцэі адрозьніваюцца нават па тэрмінах навучаньня: у Беларускім гуманітарным ліцэі навучаюцца з 8 па 11 клас, а ліцэі пры універсітэце з 10 па 11 клас. Такім чынам пры аб'яднаньні навучэнцы 1 і 2 курсаў Беларускага гуманітарнага ліцэя не змогуць працягваць вучобу ў гэтай установе, яны вымушаныя будуць вярнуцца ў школы. Пры гэтым чыноўнікі ад адукацыі спрабуюць падкупіць выкладчыкаў і навучэнцаў. Выкладчыкам абяцаюць павышэньне заробкаў, а навучэнцам прывілеі пры паступленьні ў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт (іх будуць залічваць па выніках выпускных экзаменаў). Нягледзячы на ўсе абяцаньні, выкладчыкі, вучні і бацькі пратэстуюць супраць ліквідацыі ліцэя. На бацькоўскім сходзе быў падпісаны ліст у абарону ліцэя, з якім 21 траўня быў азнаёмлены віцэ-прэм'ер Уладзімір Замяталін. 29 траўня дэлегацыя бацькоў наведала місію АБСЕ.

Трэба адзначыць, што гэта ўжо ня першы наступ на Беларускі гуманітарны ліцэй.

Вясной 1997 года ў ліцэя хацелі адабраць будынак па вуліцы Кірава. Бацькі, дзеці і выкладчыкі разам выходзілі на пікеты, зьбіралі подпісы. Да праблемы была прыцягнута грамадская ўвага. Такім чынам у 1997 годзе ліцэй удалося адстаяць.

Пільную увагу уладаў да Беларускага гуманітарнага ліцэя можна патлумачыць тым, што гуманітарны ліцэй— той адукацыйна-культурны асяродак, у якім выхоўваюцца нацыянальна сьвядомыя высока-адукаваныя кадры, якія у будучым могуць скласьці рэальную небясьпеку для існаваньня дыктатарскага рэжыму ў Беларусі. Акрамя таго, сярод выкладчыкаў ліцэя актывісты Беларускага Народнага Фронту: в.а. старшыні БНФ Лявон Баршчэўскі і Вінцук Вячорка.

Справа Беларускага гуманітарнага ліцэя — справа будучыні Беларусі.

# У спратах "Валадаркі"

## Сустрэча

У нядзелю на чыгуначным вакзале беларускай сталіцы я выпадкова натрапіў на знаёмага чалавека: ягоныя дзіравыя джынсы і зашмальцаваная куртка здалёк прыцягвалі ўвагу. Абапёршыся на таксафон ён злосна і коса пазіраў на натоўп, які рушыў у падземны пераход. У 1997 годзе разам з ім мне давялося правесьці месяц у Цэнтральнай турме Беларусі, а дакладней, у СІЗА — у "Валадарцы".

Каб не прыцягваць увагі людзей з натоўпу, я ціхенька прывітаўся і запытаў: "Як справы, Валерык?" Ён утаропіўся ў мяне мутнымі вачыма і праз хвіліну вымавіў:"Гы-гы, гэта ты, я пазнаў!" Размовы ў нас не адбылося, я дастаў з кішэні 15 тысячаў беларускіх рублёў і перадаў у дрыжачыя з чорнымі пазногцямі рукі. Я зразумеў, што ні фізічны, ні духоўны стан яго здароўя за апошні час не палепшыўся.

Вядома, выйсьці з беларускай турмы цалкам здаровым — амаль немагчыма. Але ж тое, што тычыцца захаваньня псіхікі, часткова залежыць ад цябе самога. Акрамя законаў рэжыму, напісаных адміністрацыяй, ёсьць закон асобны — турэмны. І калі воляй лёсу ты апынуўся ў гэтых сьценах, ты абавязаны яго прытрымівацца.

Я ўзгадаў той дзень, калі Валерык пераступіў парог турэмнай камеры нумар 220 на Валадарцы. Першае, што ён забыў зрабіць, зайшоўшы у "хату", — гэта прывітацца. Колькі хвілінаў ён моўчкі аглядаў турэмны пакой, а калі рукі стаміліся трымаць матрац, перавязаны коўдрай, ён ледзь ня кінуў яго на прыступку "дальняка" (прыбіральні).

Усё, што упала на "дальняк", хай гэта будзе шкарпэтка ці зубная шчотка, — падбіраць забаронена турэмнымі правілам. Тое што ўпала — трэба выкінуць. Нават, калі гэта будзе самая каштоўная для цябе і патрэбная рэч. Нельга падбіраць і спадзеючыся, што гэтага ніхто ня ўбачыць. У турэмным пакоі заўсёды знойдуцца зоркія вочы.

Яго папярэдзілі, што так рабіць нельга і растлумачылі асноўныя манеры паводзінаў і правілы гігіены. Калі ў "хаце" зьяўляецца новы чалавек, гэта заўсёды нейкае ажыўленьне. Першыя дні да яго прыглядаюцца, распытваючы ці "усё нармальна ў яго зь мінулым" (ці не зьяўляецца ён стукачом альбо "пеўнем"). Часам у турэмных камерах навенькім прапануюць розныя загадкі, якія ня тычацца ягонага інтэлекту, а пабудаваныя па турэмных законах. Нават на самую простую загадку: "Што выбіраеш: х.. у задніцу альбо відэлец у вока". Трэба адказваць:"Відэлец у вока". Таму што відэльцаў у камеры няма і быць ня можа.

Валерык правільна адказаць ня здолеў, таму яму прапанавалі "праверыцца на бурбулятары". У чыфірбак набіраюць вады і прапануюць туды сесьці. Калі пойдуць бурбалкі, гэта быццам бы сьведчыць, што ты "певень". У такой сітуацыі заўсёды знойдзецца той, хто ўбачыць бурбалкі.

Дзякуй Богу, што Валерыка "на бурбулятар" усё ж не пасадзілі. Ён быў асуджаны на два гады "хіміі" за дробнае махлярства і нічога асаблівага з сябе не ўяўляў. Але ж у камеры, як і кожным калектыве, нехта заўсёды імкнецца быць асноўным, каб заняць лепшы "шканар"(спальнае месца) , даць некалькі цыгарэтаў і адмовіцца прыбіраць "хату". А дзеля гэтага павінны быць і прыніжаныя. Паступова, дзень за днём, Валерык дабраахвотна пачаў ператварацца ў "каня"(мыў хату і выносіў сьмецьцье). Калі ў "хаце" рабілася сумна, кожны імкнуўся пазьдзекавацца з Валерыка. Напачатку гэта выглядала як "развлекаловка". Валерыка культурна прасілі "падаць малаток альбо адвёртку". Затарможаны Валерык ускокваў з месца і пачынаў шукаць малаток ці адвёртку. Хаця было цалкам зразумела, што ў турэмным пакоі такога інструменту няма і быць ня можа.

Мне было шкада трыццацігадовага хлопца і некалькі разоў я спрабаваў яму растлумачыць як трэба сябе паводзіць і даць некалькі карысных парадаў. Адна з якіх: каб ня лез у чужыя размовы. Другая: каб прыслухоўваўся да іншых і ня ўлазіў у чужыя спрэчкі.

Але ж адчувалася, што першыя двое сутак, праведзеныя ў"адстойніку" паўплывалі на ягоную псіхіку, і ў хлопца паціху "ехаў дах". Неяк увечары Валерыку паведамілі, што заўтра яго чарга ісьці на Камароўскі рынак. Усьцешанаму Валерыку далі кавалак паперы і надыктавалі тэкст. Ягоную заяўку, разам з іншымі заяўкамі на санчастку, перадалі менту. На наступны дзень пасьля нішчымнага сьнеданку, Валерык пачаў грукатацьу дзьверы і патрабаваць выхаду ў горад. Дзяжурны мент папрасіў яго супакоіцца, але ж Валерык упарта дамагаўся свайго. Калі ментоўскія нервы ня вытрымалі, Валерыка выцягнулі на "прадол".

Хвілінаў дзесяць адтуль былі чуваць дзікія крыкі, пасьля чаго ледзь жывога Валерыка запіхнулі назад у "хату". Два дні Валерык ляжаў амаль без прытомнасьці, а калі ўскокваў, то пачынаў размаўляць сам з сабой. Некаторыя зэкі сьцьвярджалі, што Валерык пачаў "касіць". Але ж "касіць"у "асуждзёнцы" ня мае сэнсу, замест чакаемай "хіміі" можаш патрапіць на "дурку", а ўмовы ўтрыманьня на гэтай "бальнічцы" куды горшыя, чым нават у вільготных спратах Валадаркі. Прынамсі, псіхічна здаровым ніхто з "дуркі" не выходзіў. Гледзячы ў шалёныя вочы Валерыка, я прыйшоў да высновы, што хлопец вар'яцее.

Наступным патрабаваньнем Валерыка стала прызначэньне тэрміновай сустрэчы з прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь. Былы тэле-радыёмайстар Паша зрабіў яму "сотавы" тэлефон. Для гэтага спатрэбіўся хлебны мякіш. Зубная паста і попел. Штодня Валерык бегаў па хаце са штучным тэлефонам, спрабуючы зьвязацца з Аляксандрам Рыгоравічам Лукашэнкам.

Калі размовы Валерыка з прэзідэнтам пачыналі надакучваць прысутным, у яго забіралі апарат.У гэтых выпадках Валерык пераходзіў да літаратурнай працы. А паколькі паперы ў камеры не было, свае літаратурныя здабыткі ў выглядзе пасланьняў да прэзідэнта і Ўсявышняга Валерыку даводзілася пісаць дробным почыркам на просьціне. На лі-таратурныя захапленні Валерыка ніхто не зьвяртаў увагі да таго часу, пакуль аднойчы ўначы Валерык ня зьеў чужы кавалак сала, цыбулю і палову бохана хлеба.



У турме зэкаў, якія крадуць у сваіх, называюць "крысамі".Тым, каго злавілі за крадзяжом, чакаць літасьці не даводзіцца. Валерыка білі доўга і моцна...

Ніводны з тых асуджаных, хто маральна зламаўся ў турме, ня здолеў "падняцца" на волі. У асноўным яны папаўняюць шэрагі бамжоў. Адным зь іх і зрабіўся Валерык.

**Мікола КАЧАН**

*(Працяг будзе)*

*(Працяг. Пачатак у №№2-3, 5-11)*



**Права на волю. Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна-96". Выходзіць два разы на месяц на беларускай, ангельскай і рускай мовах. Наклад 299 асобнікаў. Адрас рэдакцыі: 220007 Менск, а/с 88.E-mal:rights@v96.open.by Рэдактар Алесь БЯЛЯЦКІ.**

*У нумары скарыстаныя малюнкі А. Карповіча і фотаздымкі з архіву Цэнтра "Вясна-96"*